# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 31 (2225) 1 жніўня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


Гэтыя здымкі зроблены 20 ліпеня 1991 года ва ўрочышчы Цагельня пад Чэрвенем. Тут 50 год назад, у ноч з 26 на 27 ліпеня 1941 года, былі расстраляны 600—700 палітычных вязняў. З разбуранай пасля нямецкай бамбардзіроўкі Мінскай турмы канвой НКУС гнаў калону ў Чэрвеньскую турму. Пасля сарціроўкі ўсіх, хто застаўся — цяжарныя жанчыны і жанчыны з маленькімі дзецьмі, старыя і проста знямоглыя ад пакут людзі — пагналі па шашы з Чэрвеня на Бабруйск. Па дарозе калона была расстраляна. Сярод палітзняволеных былі рускія, яўрэі, літоўцы, палякі, але найбольш — беларусаў.

У памяць аб ахвярах сталінізму таварыства "Мартыралог Беларусі" і Саюз былых палітзняволеных Літвы правялі на месцы расстрэлаў мітынг-жальбіны. Быў установлены і асвячоны крыж і літоўская капліца, ускладзены кветкі на магілы нявінных, якія загінулі ад рук сталінскіх катаў.

Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.







"Мы праверылі работу Мінскага гарадскога аддзялення "Саюздруку" ў сакавіку і высветлілі наступнае: кіёскі завалены самымі рознымі выданнямі — і кааператыўнымі, і дзяржаўнымі, і грамадскімі. (І ў асноўным гэта рускамоўныя выданні). Тут і парнаграфія, і на мяжы парнаграфіі. Беларускія ж выданні ў гэтым вялікім стосе, як правіла, кепска ляжаць, іх не відаць, зусім не рэкламуюцца. Тысячы нумароў "Свабоды", "Навін БНФ", нават унікальны першы нумар "Спадчыны" за 1991 год былі спісаны, праляжаўшы недзе ў закутках кіёскаў. Ганебная з'ява, калі нехта не можа купіць тое, што яму трэба. (А ў беларускамоўных выданняў ёсць свой чытач.). Хаця цалкам на работнікаў "Саюздруку" нельга ўзвальваць усю адказнасць. Яны ў вельмі складаным становішчы. Выйсце з такой сітуацыі мы бачым у стварэнні асацыяцыі беларускіх выданняў, каб яны ў кожным горадзе, мястэчку мелі сваю базу — 1, 2, 3, 4 кіёскі, дзе можна было б рэалізаваць сваю прадукцыю".

"МЕНЕЙ СЛОЎ, БОЛЕЙ СПРАЎ"

Стар. 6

## РУКАМ РАБОТА, ДУШЫ РАСКОША

Наша тлумнае жыццё нярэдка дыктуе нам свае законы. Закруціць, зацягне ў свой штодзённы шматгадовы вір — і заняты ўсё жыццё чалавек звычайнымі рабочымі клопатамі, пакуль здароўе дазваляе. А то і простую сялянскую справу робіць, як спрадвек рабілі яе дзяды і прадзеды. Часам толькі пад старасць, бывае, мільгане нейкі пробліск, нейкая невыразная згадка, нейкі сум па чымсьці няздзейсненым, што зрэдку вярэдзіла душу, але з-за штодзённых клопатаў так і заставалася недасяжнай марай. Але ж здараецца і такое, што раптам падвядзе здароўе, выб'е з жыццёвай каляіны — і ўжо ні за плугам не пойдзеш, ні сякеры ў рукі не возьмеш, ні за станок не станеш. А хіба можна прыдумаць горшае пакаранне чалавеку-працаўніку? Вось і шукаюць галава і рукі нейкі пасільны занятак, а калі ў душы паціху тлеў агеньчык творчасці, то чаму б яму цяпер і не разгарэцца?

Нешта падобнае перажыў і Пётр Гатоўка, вядомы сёння майстар-саломапляцельшчык з Урэчча паблізу Вілейкі. Усё жыцце ён працаваў, і ў гэта нельга не паверыць ужо пры першай сустрэчы, калі майстар працягвае для прывітання сваю магутную руку, у якой не салому, а хіба што молат ці сякеру трымаць. Але не пад сілу яны ўжо Пятру Аляксандравічу.

Цяжка абапіраючыся на кульбу, гаспадар паціху вядзе госця з ганка ў хату, асцярожна ўладкоўваецца ў крэсле, не спяшаючыся пачынаць гаворку, каб даць як след агледзецца. А тут шмат чаго цікавага, асабліва для свежага чалавека. І ўсё — з саломы. Фотаздымкі — у плеценых саламяных рамках. Пад столлю на нітцы паціху паварочваецца ў паветраных плевах адмысловая крышталічная канструкцыя — павук. Побач, распасцёршы вялікія крылы, лунае залацістая птушка, падобная ні то на голуба, ні то на нейкае казачнае райскае дзіва. На сцяне — плеценае пано з аленямі ў лесе. Шмат самых розных куфэрачкаў і шкатулак — то нізкіх, плоскіх, то высокіх, з пукатым векам, як у сялянскіх куфраў, якія калісьці стаялі ў кожнай хаце.

— Вось гэтымі пальцамі ўсё сплецена, — паказвае Пётр Аляксандравіч свае, на першы погляд, нязграбныя рукі. — Не думаў, што на старасці займуся такой работай. А чым яшчэ заняцца, калі здароўе так прыплашэла? Ды і адкуль жа яму ўзяцца? Мальцам усю вайну быў сувязным у партызанаў. Не лягчэй і пасля вайны было. І ў калгасе рабіў, і кіраваць ім давялося. Нават фінінспектарам пабываў. І гэта ў тыя часы... Так вось і прабегаў усё жыццё, спяшаўся, мітусіўся, пакуль ногі бегаць не адмовіліся. Цяпер і хацеў бы паспяшацца, ды не можаш. Ёсць час азірнуцца, і да сябе прыслухацца, і рукам занятак знайсці...

— Відаць жа, не проста так гэтыя рукі ўзялі ды і заняліся пляценнем?

— Ну вядома... Даўней жа ўсё ў гаспадарцы сваімі рукамі рабілі. Хоць кошык сплесці з лазы, хоць посцілку саткаць. А колькі чаго з саломы плялі! Сявенькі, гарчыкі, каробкі, кублы, часам такія ёмкія, што чалавек мог схавацца. Яшчэ і сёння дзе па хатах свой век дажываюць, а раней жа ўсё гэта ў гаспадарцы

(Заканчэнне на 8-й стар.).

СВЕДЧЫЦЬ СТАТЫСТЫКА

## ПРАЖЫТАЧНЫ МІНІМУМ

Дзяржаўны камітэт Беларускай ССР па статыстыцы і аналізу паведаміў, што ў чэрвені 1991 года ў параўнанні з маем 1991 года індэкс цэн на харчовыя і нехарчовыя тавары і паслугі, уключаныя ў "спажывецкую карзінку", склаў 102 працэнты. Індэкс спажывецкіх цэн за чэрвень, вылічаны нарастаючым вынікам да красавіка 1991 года, склаў 103,9 працэнта. Велічыня пражытачнага мінімуму, з улікам росту цэн у чэрвені, узрасла да 275 рублёў.

## КОЛЬКІ ВЫЯЗДЖАЕ

У 1989 годзе дазвол на выезд з СССР атрымалі 235 442 чалавекі (выйшлі з грамадзянства 6 771), у 1990 годзе — 453 693 (выйшлі з грамадзянства 8 320), за чатыры месяцы 1991 года афармлены 111 763 справы, задаволена просьба аб выхадзе з грамадзянства СССР 4 815 заяўшчыкаў.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ГРОДНА-МІНДЭН

Дагавор аб доўгатэрміновым супрацоўніцтве падпісаны паміж Гродна і нямецкім горадам Міндэнам. Ён прадугледжвае стварэнне сумесных прадпрыемстваў, абмен гаспадарчым і культурным вопытам. З дапамогай нямецкага боку на адным з прамысловых прадпрыемстваў Гродна мяркуецца наладзіць выпуск дэфіцытных бытавых электраприбораў і сродкаў малой механізацыі, правесці рэканструкцыю дзеючых у абласным цэнтры ачышчальных збудаванняў. Намечана стварэнне сумеснай вытворчасці па вырабу прадукцыі народных промыслаў і цэнтра па рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў.

У "арбіту" дагавора, падпісанага, дарэчы, па прапанове нямецкага боку, вырашана ўключыць і тыя гарады, з якімі Гродна і Міндэн ужо маюць падобныя сувязі. Гэта — французскі Лімож, польскі Беласток і два гарады з Англіі і Іспаніі — пабрацімы Міндэна. Для каардынацыі супрацоўніцтва паміж імі на апошняй сесіі Гродзенскага гарсавета ў штат яго выканкома ўпершыню ўведзена пасада спецыяліста па зарубежных сувязях.

ПРЭТЭНЗІІ НА СПАДЧЫНУ

## ПРАД'ЯЎЛЯЮЦЬ ІСК

На адрас Старшыні Вярхоўнага Савета Літвы В. Ландсбергіса прыйшло пісьмо з Каліфорніі ад унука графа Уладзіслава Тышкевіча.

Ён просіць, у адпаведнасці з прынятым у рэспубліцы законам, вярнуць яму былую маёмасць — замак у Лентварысе, дзе зараз знаходзіцца фабрыка, і 200 тысяч гектараў зямлі (гэта адпавядае тэрыторыі двух раёнаў). Другі ўнук графа прад'явіў правы на замак у Палангзе — тут цяпер размяшчаецца музей бурштыну. Як паведамляецца, Ландсбергіс перадаў гэтыя просьбы ў адпаведныя камісіі для разгляду.

Прэтэнзіі на немалыя зямельныя ўгоддзі прад'яўляюць таксама продкі Радзівілаў, Сапегаў, Тызенгаўзенаў і іншых.

СУСТРЭЧЫ

## «НАМ СПАДАБАЛАСЯ...»

Два дні былі гасцямі беларускай сталіцы прадстаўнікі Саюза хрысціянскай моладзі з Канады.

Яны далі 5 дабрачынных імправізаваных канцэртаў, сыгралі проста на прыступках Белдзяржфілармоніі перад шматлікімі гледачамі драму-пантаміму.

Салісткі Саюза хрысціянскай моладзі спявалі аб дабрыні, міратворчасці, любві да Бога і бліжняга.

— Нам спадабалася тут усё: ветлівыя і добрыя мінчане, горад — чысты, свежы, прыгожы, — гаварылі госці.

На памяць аб выдатна праведзеных днях яны падаравалі мінчанам царкоўныя кнігі і магнітафонныя касеты з запісамі сваіх песень.

ЭКАЛОГІЯ

## АТРУЧАНЫ КАЛОДЗЕЖ

Забараніць прымяненне вадкага аміяку, адмовіцца ад унясення ўгнаенняў з дапамогай авіяцыі, пачаць будаўніцтва водаправодаў у вёсках, дзе канцэнтрацыя нітратаў у калодзежнай вадзе больш чым у дзесяць разоў перавышае дапушчальныя санітарныя нормы. Такое рашэнне прыняло кіраўніцтва Карэліцкага раёна пасля азнаямлення з вынікамі даследаванняў пітной вады, праведзеных вучонымі Белдзяржуніверсітэта. Для такога рашучага кроку, які патрабуе выдзялення немалых сродкаў, патрэбны вельмі сур'ёзныя довады, і ў мінскіх спецыялістаў яны знайшліся.

Гранічна дапушчальная канцэнтрацыя нітратаў у вадзе — 45 міліграмаў на літар, а сярэдні паказчык па раёну аказаўся ў пяць разоў вышэйшы. Пры гэтым у некаторых калодзежах і крыніцах у літры вады было больш за тысячу міліграмаў такога "напаўняльніка". Даследаванні паказалі, што злучэнні азоту ў вадзе больш небяспечныя, чым у агародніне і фруктах, дзе пад уздзеяннем вітамінаў яны часткова нейтралізуюцца.

ДЭЛЕГАЦЫЯ З ГОРАДА-ПАБРАЦІМА

**У Мінску пабывала дэлегацыя японскага горада-пабраціма Сэндая на чале з намеснікам мэра панам Тадао Сасакі. Госці перадалі медыцынскае абсталяванне для гарадскога дыягнастычнага цэнтра, абмеркавалі практычныя захады па арганізацыі стажыроўкі беларускіх урачоў у Японіі, вырашылі пытанні далейшага супрацоўніцтва Мінска і Сэндая.**

**НА ЗДЫМКУ: японскія госці на плошчы Перамогі ў Мінску.**



ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Міністэрства юстыцыі БССР зарэгістравала нацыянальную няўрадавую арганізацыю — Беларускую асацыяцыю садзейнічання ААН. Заснавальнікамі яе сталі 17 рэспубліканскіх арганізацый. Узначаліў асацыяцыю акадэмік АН БССР, народны дэпутат СССР Уладзімір Лабуноў.

● У Оршы адкрыта першая вышэйшая навучальная ўстанова — вышэйшы тэхнічны каледж. За шэсць гадоў навучання студэнты атрымаюць тры дыпломы — кваліфікаванага рабочага, малодшага інжынера і інжынера. Такі каледж пакуль адзіны ў Беларусі.

● Сваё 500-годдзе адзначыла вёска Уселюб Навагрудскага раёна. Гэта былое мястэчка цяпер з'яўляецца цэнтрам багатага калгаса "Краіна Саветаў". Некалі яно славілася сваімі майстрамі-рамеснікамі.

● Навагрудскі райком партыі перавёў справаводства на беларускую мову. Родная мова цяпер стала рабочай мовай на ўсіх пасяджэннях і нарадах, пры прыёме наведвальнікаў. Хутка беларусізацыя адбудзецца і ў выканаўчых камітэтах гарадскога і раённага Саветаў народных дэпутатаў.

● Першая беларуская гімназія ствараецца ў Маладзечне. Прагімназічныя і пачатковыя гімназічныя класы будуць мець агульнаэстэтычны і тэатральны ўхіл. А пачынаючы з восьмага класа гімназісты могуць выбраць навучанне і з фізіка-матэматычным накірункам.

● Па вялічваецца колькасць непаўналетніх злачынцаў. Сёлета ў першым паўгоддзі толькі ў Мінску падлеткамі ўчынена 60 крадзяжоў дзяржаўнай і 276— асабістай маёмасці жыхароў сталіцы.

● У Карме, на Гомельшчыне, закладзены першы камень у падмурак новай царквы. Епіскап Гомельскі і Мазырскі Арыстарх асвяціў будаўнічую пляцоўку. Царкву мяркуюць адкрыць да Вялікадня вясной.

ДУМКА ЛЮДЗЕЙ ДАСВЕДЧАНЫХ

# ЦЕНЯВАЯ ЭКАНОМІКА: З ЧАГО ЯНА СКЛАДАЕЦЦА

Апошнім часам мы нярэдка заводзім размову пра ценявую эканоміку, хаця не заўсёды ўяўляем, што ж уваходзіць у гэта паняцце. Артыкул, які прапаноўваецца ўвазе чытачоў, паказвае састаўляючыя ценявой эканомі і нашай краіны ў параўнанні з заходнімі, дзе таксама існуе такая з'ява.

У Італіі на долю ценявой эканомікі прыпадае каля 30 працэнтаў валавого нацыянальнага прадукту, у законапаслухмяных Германіі і Вялікабрытаніі — прыкладна па 10 працэнтаў. У нашай краіне, калі кіравацца заходнімі вызначэннямі, яе доля не такая ўжо і вялікая — недзе паміж гэтымі велічынямі. Але, калі няма рэзкіх адрозненняў колькасных, то якасныя — проста занадта вялікія.

У заходніх краінах да галіны ценявой эканомікі адносяць дзейнасць, якая мінуе афіцыйны ўлік і падаткаабкладанне ці забаронена законам і з'яўляецца крымінальнай. Доля апошняй нязначная. У СССР, наадварот, злачыннасць пранізвае амаль усю ценявую структуру. Вось прыклад. На Захадзе ад падаткаў часта ўтойваецца праца па рамонту кватэр, бытавой тэхнікі, аўтамабіляў і да т. п. У нашай краіне такая дзейнасць не толькі скрыта ад абкладання падаткамі, але практычна заўсёды ажыццяўляецца з выкарыстаннем крадзеных матэрыялаў ды яшчэ і па спекуляцыйна завышаных цэнах. Падпольныя вытворцы--адзіночкі і нават цэлыя фірмы не толькі паспяхова ўхіляюцца ад падаткаў, але і сваю прадукцыю (абутак, трыкатаж, швейныя вырабы) вырабляюць з крадзенай сыравіны на крадзеным жа абсталяванні.

Зрэшты, нават калі б яны раптам захацелі набыць неабходныя матэрыялы і машыны сумленна і адкрыта, то не змаглі б гэтага зрабіць па той прычыне, што ў пераважнай большасці выпадкаў у продажы іх проста няма. Дзяржава іх не прадае, а размяркоўвае па падначаленых ёй ведамствах і прадпрыемствах, адкуль яны і "плывуць у цень".

Крадзеж у нас — першая і галоўная састаўляючая ценявой эканомікі. Крадуць усюды. Маштабы гэтай з'явы вызначыць амаль немагчыма. Вось толькі некаторыя вельмі прыблізныя ацэнкі. Крадзяжы на чыгуначным транспарце — 10 мільярдаў рублёў у год, дробныя раскраданні з дзяржаўных прадпрыемстваў — 1,5 мільярда, крадзеж бензіну — 1,4 мільярда, будматэрыялаў — 0,6 мільярда рублёў і г. д.

"Прымітыўнае" ўхіленне ад падаткаў складае ў маштабах краіны ўвогуле мізэрную велічыню: па прадпрыемствах недабор складае 2,5 мільярда (каля аднаго працэнта), а з насельніцтва штогод недаатрымліваюць ад 2,5 да 4 мільярдаў (3-6 працэнтаў).

Акрамя ценявой эканомікі, "агульнай" з Захадам, у нашай краіне маецца і свая ўласная, так сказаць, "сацыялістычная". Сутнасць яе ў тым, што ў ёй не крадуць у прамым сэнсе, а атрымліваюць зарплату за работу нявыкананую, але затое зафіксаваную ва ўсіх афіцыйных дакуменатх. Гутарка ідзе аб так званых прыпісках. У будаўніцтве яны складаюць не менш 40 працэнтаў агульнага аб'ёму, на аўтатранспарце — роўна палавіну. У здабываючых галінах — 23-28 працэнтаў, у лясной гаспадарцы — да адной трэці. А зарплата ж, усякія надбаўкі да яе і нават прэміі выплачваюцца па прадстаўленых дакументах...

Яшчэ адна сфера ценявой эканомікі, аб якой на Захадзе не маюць амаль ніякага ўяўлення, — гэта адкрыты падман пакупнікоў і кліентаў прадаўцамі і іншым абслуговым персаналам (аблік, абважванне, абмер і г. д.). З іх дапамогай да рук дзялкоў прыліпае штогод да 11 мільярдаў рублёў. Да іх можна дабавіць яшчэ 4 мільярды, што атрымліваюцца ў выніку падману заказчыкаў і вымагання з боку работнікаў камунальнай гаспадаркі. У "бясплатнай" ахове здароўя хабары складаюць, па самых сціплых ацэнках, 600 мільёнаў рублёў. Выраб самагону і яго продаж даюць 10 мільярдаў, а спекуляцыя тытунёвымі вырабамі, што сталі раптам дэфіцытнымі, — 7 мільярдаў. Восем з палавінай мільярдаў "каштуе" перапродаж аўтамабіляў і запасных частак да іх.

На гэтым фоне даходы наркабізнесу, аб неабходнасці рашучай барацьбы з якім справядліва піша наша прэса, выглядаюць вельмі сціпла (2,5 мільярда). Яшчэ менш даюць кантрабанда (адзін мільярд рублёў) і прастытуцыя (0,3).

Нарэшце, варта выдзеліць яшчэ адну разнавіднасць працоўнай дзейнасці, якую, праўда, да ценявой эканомікі можна аднесці толькі ўмоўна. Гутарка ідзе аб самадзейных адносінах насельніцтва, накіраваных на задавальненне рэальных штодзённых патрэб людзей. Дзяржаву яны не цікавяць, і яна імі не займаецца. А размова ж ідзе аб рэчах хоць і простых (догляд хворых, дзяцей, рэпетытарства, розныя кансультацыі і да т. п.), але без якіх часам не абысціся. Паводле афіцыйных даных, іх штогод аказваецца на 14-16 мільярдаў рублёў.

Пералічаныя сферы ценявой эканомікі ахопліваюць практычна ўсю краіну, у іх уцягнута так ці інакш усё насельніцтва. У ценявым бізнесе занята каля 40 мільёнаў чалавек (у крымінальнай яго галіне — ад 1,4 да 2 мільёнаў).

Меры, што прымаліся да гэтага часу ўрадам па абмежаванню падпольнай эканомікі, у першую чаргу яе крымінальный сферы, прыкметных вынікаў пакуль не далі. Больш таго, у шэрагу выпадкаў ён нават пацярпеў паражэнне.

Анатолій ДЗЯРАБІН,
доктар эканамічных навук, прафесар.






# У. СТО СУСТРЭЧ ЗА АКІЯНАМ

КЛІЎЛЕНД, а тым больш Полацк у нашым абывацельскім разуменні — гэта як бы правінцыя. Амерыканская правінцыя. Бо надта ж далёка яна ад шматмільённых Вашынгтона, Чыкага, Нью-Йорка. Але ў краіне, дзе няма праблем з транспартам, дзе любая ферма, "хатка", "вёска" звязана з вялікім светам добрай дарогай, дзе забеспячэнне, бытавыя ўмовы, абслугоўванне амаль нічым не адрозніваюцца ад сталічных, не скажаш, што за дзесяць гадзін язды на легкавіку — гэта глыбінка.

Такія ж вакол прывабныя асабнячкі, процьма ўсялякіх крамак, агні рэкламы, хуткая аўтастрада, незлічоных марак аўтамабілі...

Гэтак і пад Кліўлендам, у мястэчку, дзе жывуць-пражываюць, не адчуваючы сябе ніякімі правінцыяламі, нараджаюцца, працуюць, жэняцца, паміраюць нашы землякі. Якім даспадобы жыццё на ўлонні прыроды.

Полацк — гэта райскі куточак у параўнанні з грукатлівым і высозным Нью-Йоркам. Так мне падалося ў праведзены там тыдзень. Усяго некалькі дамоў (толькі тры) пад хваёвымі шатамі, ставок, густы гай, дзе і цяпер часам бавяцца каля агеньчыка старыя і моладзь: прыгадваюць, абмяркоўваюць справы, жартуюць, частуюцца. На адным з будынкаў, дзе жыве руплівец Сяргей Карніловіч, ёсць флюгер. Малюнак кавальства сведчыць, што некалі тут была конеферма. А цяпер зямля належыць Карніловічу, і магла яна называцца Палессем, але грамадская думка перамагла і ўжо васемнаццаць год, як з'явіўся на карце планеты другі — амерыканскі Полацк. Ці, як тут кажуць, Полацак. На Беларусь жа звестка пра гэта дайшла некалькі гадоў назад, калі там пабывалі пісьменнік і вучоны Л. Казыра і спявак В. Скарабагатаў, пасланыя Беларускім таварыствам "Радзіма". А разам з гэтым дайшлі да нас і імёны тых, хто і там рупіцца пра Беларусь, пра нашу супольнасць, пра адраджэнне, пра тых, каму баліць наша чарнобыльская бяда.

— Сяргей ёсць корань, — сказала неяк пра Карніловіча адна з тых, чыё жыццё цесна звязана з гэтай зямлёй, ягоная суседка Ева Яраховіч. Так сказаў бы напэўна кожны, хто ведае гэтага вечна заклапочанага, ужо немаладога дзядзьку Сяргея, які сам пра сябе, божа барані, каб хоць слова мовіў. Усё тут, ад будаўніцтва царквы да ўзвядзення культурна-грамадскага Цэнтра, усё, на чым трымаецца беларуская супольнасць, — прайшло праз сэрца і рукі ахвярнага выхадца з-пад Докшыц. Таму Ева дадала: "Сяргей носіць сваё сэрца на рукаве".

А сама спадарыня Яраховіч з тых моцных людзей, хто ні пры якіх абставінах не губляў гонару за нацыю. Яшчэ бацька вучыў яе ў дзяцінстве: "Дачушачка, ніколі не цурайся свайго". З таго часу мінула амаль усё Евіна жыццё. А было ў ім — ворагу не пажадаеш: і вайна, і Нямеччына, і лагер, і калючы дрот. І назаўсёды развітанне з Радзімаю, з родным Палессем. Ужо тут, на амерыканскай зямлі, якраз у гэтым куточку, Ева сталела, вучылася. Яна добра танцавала, спявала, вышывала кашулі. Цяпер у спадарыні Евы аж дзевяць унукаў. Яна ўжо не працуе, як раней, поварам, а дапамагае царкве ўтрымоўваць бінга, з якога і фінансуюцца ў асноўным розныя мерапрыемствы. Дзякуючы гэтай энергічнай жанчыне, пабачыў я розныя мясціны, сустрэў шмат цікавых землякоў. Яна завяла і з гонарам паказала беларускі аддзел кліўлендскай публічнай бібліятэкі, якую нярэдка наведвае, каб набыць ці казачкі (вельмі любіць іх чытаць), ці альбом пра Бацькаўшчыну, ці зборнік вершаў. А ўпершыню ўбачыў я сучасную бабулю Еву на сцежцы да Цэнтра, у руках яна трымала дзіўнага пакрою яркачырвоны касцюм. Усміхнулася, блiснула шкельцамі акуляраў, папярэдзіла маё пытанне: "Гэта касцюм Дзеда Мароза, вось ладзілі дзецям ялінку, шкада што вы не пабачылі".

Жыццё кліўлендска-полацкіх беларусаў такое ж насычанае, цікавае і ў многім падобнае на жыццё ў калоніі ў Нью-Йорку, у Саўт-Рыверы, у Нью-Брансвіку. Ёсць намеры стварыць беларускую школку. А яшчэ плануецца каля Цэнтра ўзвесці новую царкву. Пра планы і задумы я чуў не толькі ад Карніловіча, але і ад Янкі Ханенкі, калі быў у ягоным доме і знаёміўся з графічнымі працамі — дзіўнымі малюнкамі яго жонкі Ліды.

У кароткім допісе, зразумела, не распавядаеш пра ўсё і не пакажаш усе здымкі нават пра самае цікавае. І пра тое, як атрымаў ад пісьменніцы Аляксандры Саковіч яе апошнюю кнігу "У пошуках праўды". Пра сустрэчу з уладальнікам завода. Пра канцэрт "Песняроў". Пра сваю фотавыставу, на якой шмат з кім пазнаёміўся і шмат з кім не паспеў. А цяпер згадаю імёны і прозвішчы тых кліўлендска-полацкіх беларусаў, без якіх не было б ста сустрэч за акіянам: айцец Міхал і айцец Якуб, Андрэй Стрэчын, Кастусь Калоша, Аўген Кабяка, Ірэна Каляда-Смірноў, Антон Даніловіч, Валя Яцэвіч, Сяргей Якімовіч, Васіль Ягоўдзік, Слава Карніловіч, Кастусь Маталыцкі і яго жонка Адэля, Міхась Калядка. А таксама Марыя Гумен, якая выйграла на бінга адразу трыста долараў, і Данілка Яраховіч, які збіраўся на вайну ў Персідскі заліў. Але пра яго наступным разам.

Анатоль КЛЯШЧУК.

НА ЗДЫМКАХ: Полацкія сілуэты; флюгер на доме Сяргея КАРНІЛОВІЧА; Сяргей КАРНІЛОВІЧ і Ева ЯРАХОВІЧ едуць на бінга; перад тым, як выехаць, Слава КАРНІЛОВІЧ бярэ ў рукі рыдлёўку.

Фота аўтара.








— 65 —

Апрача закусак пан Бэран паставіў розных бутэляк з вішнёўкай, з лікёрамі й з асобнай сэрбскай гарэлкай. Як ён казаў — "сьлівовіцэ". Гэтую сэрбскую "сьлівовіцэ" ён прапануе дамам, калі і яны будуць.

У назначаны час госьці не сабраліся, прыйшоў толькі адзін Тугоўскі, якога цяпер ня можна было пазнаць. Ён сьскінуў з сябе сваю даўгаполую "азіяцкую" шынэль, шапку з казырком і закрыты фрэнч. Цяпер на ім было кароткае "эўрапейскае" пальто, атрыманае з камітэту разам са стыпэндыяй, зялёны касьцюм, каўнер з манішкай і з гальстукам. Пан Бэран хадзіў каля дому, паглядваў на дарогу й бачучы, што госьці ня йдуць, лаяўся па-расейску: "Чартаўшчына! [...]"

Хто яго навучыў з студэнтаў так казаць, — было невядома, але гэта былі два словы, якія ён ведаў па-расейску. Госьці зьбіраліся пакрыху. Толькі праз гадзіну, казаўшуюся цэлым днём, нарэшце ўсе сабраліся й загаманілі. Калі ўсе разселіся за сталом, шчоўкнуў фатаграфічны апарат і Загорскі, сьмяючыся, прамовіў: "Гатова". Апарат тут быў вельмі патрэбны, бо сабралася амаль што не ўся "Беларуская грамада ў Празе", апрача толькі больш самых выдатных і паважных яе сяброў. Тугоўскі не сядзеў за сталом. На яго бакі пакладзены вельмі сур'ёзныя абавязкі лёкая, і ён бегаў з пакою на кухню за гарэлкай і закускай. Вярхоўская сядзела паміж Загорскім і "айцом" Кірылам, у самым, што завецца, "чырвоным куту", — на самым ганаровым мейсцы. Тугоўскі падышоў да яе з бутэлькай "сьлівовіцэ". Яна пачала рашуча адмаўляцца:

— 66 —

— Ну, што вы, — загутарылі "айцец" Кірыла з Загорскім... — Адмаўляцца немагчыма.

— Для вас гэта выпісалі з Сэрбіі, — казаў Тугоўскі, — з самай Сэрбіі, так званую "сьлівовіцу". Вось выпісаў пан Бэран. Пакаштуйце, калі ласка...

Пан Бэран, хоць ні слова не разумеў па-беларуску, але бачучы, што на яго паказваюць, й разумеючы ў чым справа, устаў і як падабае старому кавалеру галантна скланіўся:

— Мейтэ таковоў ласкавост, сьмелно, — сказаў ён. — З Србска, то е з Србска.

Вярхоўская толькі засьмяялася:

— Каб я толькі сяньня не папала ў гэтую Сэрбію, калі зямля пачне круціцца пад маімі нагамі.

— Нічога не здарыцца, — адказываў Тугоўскі, наліваючы гарэлку. — З Сэрбіі зноў можна папасьць у Прагу.

"Айцец" Кірыла падняўся з чаркай у руцэ.

— Дазвольце мне абвясьціць, што наша сяньняшняя ўрачыстасьць пачалася. Дазвольце мне падняць гэтую чарку за здароўе ўсіх, прыйшоўшых наведаць мяне... Няхай жыве "Беларуская грамада ў Празе"!

Усе крыкнулі з падоймам: "Няхай жыве!" й чокнуліся чаркамі. Пасьля выпітага ўсе пахіліліся і пачалі так шчыра працаваць нажамі й відэльцамі, што толькі звон пайшоў па пакою. У перэрве паміж звонам чуліся пахвалы мастацтву пана Бэрана. Падняўся студэнт Тамашэвіч. Ён паправіў свае доўгія "філязофскія" валасы на

— 67 —

галаве, кашлянуў і пачаў. Усе ведалі, што ён пачне доўгую прамову, бо ведалі, што ён умее гутарыць, як былы міністр унутраных спраў ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Загорскі шапнуў Вярхоўскай па-расейску, глянуўшы на Тамашэвіча: "Всегда восторженная речь и кудри черные до плеч..." Вярхоўская ўсьмяхнулася, але паправілася ў крэсле, каб лепш слухаць.

— Я падымаю, — пачаў Тамашэвіч, — сваю чарку за здароўе нашага юбіляра. Грамадзяне, у яго асобе мы вітаем нашага сьвядомага сябру, першага беларуса, стаўшага інжынерам... Хоць кажуць: адна ластаўка ня робіць яшчэ вясны, але, грамадзяне, усё ж такі ластаўка паказвае, што вясна блізка. Хутка скончыцца зіма, якая сквавала нашу лапцюжную Беларусь, трэсьне лёд, які пакрыў таўстым слоем думкі й сэрца народу, трэсьне й на вялікіх беларускіх рэках паплыве, топлячыся й гінучы, пад уздоймам разбушаваўшай народнай стыхіі, якая затопіць берагі й зламае ўсе перашкоды, усе парканы, якія ставяць ей на шляху. Лёд трэсьне пад гарачым дыханьнем сонца, сонца ўласнай культуры. Грамадзяне, мы ўсе імкнёмся да гэтага. Увесь наш беларускі рух ад самага пачатку яго, ад доктара "вызваленых навук" Скарыны і да нашых дзён, ёсьць барацьба за нашую ўласную культуру. Калі шмат нашага старага пакаленьня стаяла і стаіць яшчэ за "аўтаномію" Беларусі, калі старая літэратура, якога-небудзь Пшчолкі, ня йшла далей

— 68 —

зьбіраньня забабонаў народных і выяўленьня народнай цемнаты ў жартах, каб пасьмяшыць паноў і расейскае дваранства... Калі, нават нашыя выдатныя акадэмікі, як прафэсар Карскі, яшчэ й зараз кажуць, што беларуская літэратура будзе жыць толькі як мяйсцовая, толькі не болей, як практычны матэр'ял — для зьбіральнікаў этнаграфіі. Мы, "младабеларусы", ідзём далей і сьмела кажам славамі Янкі Купалы, прарока нашага адраджэньня: "Годзе Заходняй ці Усходняй Культуры... Для беларуса — цана ім адна!.." Мы хочам, мы павінны тварыць уласныя беларускія, культурныя каштоўнасьці. Ніякія аўтаноміі, ніякія палавінчатыя хаўрусы з чужымі культурамі й дзяржавамі не дадуць нам нічога добрага, й мы заўсёды пойдзем на паваду ў іх, не маючы магчымасьці ўздыхнуць свабодна сваімі грудзямі... Толькі паветра ўласнай хаты дасьць нам магчымасьць разьвівацца духова, толькі на ўласнай зямлі дрэва беларускай культуры пусьце ва ўсе бакі свае магутныя галіны. Кажуць, грамадзяне, што беларусы — не нацыянальнасьць. Адны кажуць, што беларусы — гэта толькі абмаскаленыя палякі, другія кажуць, што апалячыныя маскалі... Бедныя беларусы! Каму верыць? Запраўды, яны губляюць свае галовы і махаюць рукой: "А чорт іх ведае, якой я нацыянальнасьці... Пішыце, як ведаеце..." І па вялікаму абшару зямлі беларускай, пры ўсіх перапісах, ува ўсіх камісіях беларусаў запісваюць так, як хочуць. Але давайце разьбяром навукова

— 69 —

пытаньне аб нацыянальнасці. Што такое нацыянальнасьць? Зразумела, грамадзяне, мы сабраліся сяньня не для заслуханьня навуковых дакладаў. Дзеля гэтага я не затрымаю вашай увагі на імёнах тых вучоных, якія займаліся гэтым пытаньнем. Трэба зазначыць, што гэтае пытаньне паднялося толькі ў другой палове і ў канцы XIX стагоддзя, усяго, знача, якіх-небудзь 50 гадоў таму назад. Вучоныя яшчэ зараз спрачаюцца аб прыметах нацыянальнасьці, але ў апошнія часы запанавала сярод вучоных такая думка, што ня мова, у рэшце рэшт не тэрыторыя, зьяўляецца прыметамі нацыянальнасьці; ёсьць народы, якія не маюць сваей тэрыторыі, як жыды, напрыклад, — а вось што: воля самога народу. Зьяўляецца ў народзе група адукаваных людзей, зьяўляецца ў гэтай групе пэўная воля, г. ё. моцнае жаданьне да жыцьця, й гэта воля перадаецца народу. Вось тады зьяўляецца й нацыянальнасьць. Знача: як бы там ні было — воля, жаданьне самога народу ставіцца на першае мейсца. Калі народ хоча мець сваю дзяржаву, знача, і ўсё: ён яе павінен мець, — ён ужо ёсьць акрэсленая нацыянальнасьць. Так вось, грамадзяне! Каб нас лічылі нацыянальнасьцей, мы павінны разьвіваць у народзе волю, г. ё. упартасьць, жаданьне быць вольным. Седзячы тут, у чэскай Празе, мы павінны разьвіваць перш усяго ў саміх сябе гэтую волю, каб потым перадаць яе нашаму народу. На нашай Бацькаўшчыне, паўтараю, зараз зіма. Не адзін і не два чалавекі выходзяць на дарогу і глядзяць,

— 70 —

куды паварачваецца сонца, калі ж прыйдзе, нарэшце, запраўдны дзень, калі засьмяецца, зазелянее радасна зямля, калі прылятуць ластаўкі — першыя вестніцы вясны...

Мы ўсе з вамі — гэтыя ластаўкі, грамадзяне; мы панясём культуру, уласную культуру ў свае родныя хаты... І што тады будзе, глядзіце, калі мы ўсе, далучыўшыся да сучаснай эўропейскай культуры, — зьявімся цэлай грамадой на родных палёх. Запраўды, грамадзяне, будзе нешта новае ў гісторыі!.. Дык вып'ем за гэтае новае, вып'ем за вас, вып'ем за тварцоў і змагароў беларускай культуры.

Гучнае "ўра" было яму адказам. Пачуўся звон бакалаў і шопаты задаволеных слухачоў. Трэці круг ужо значна падняў настрої прысутных і развязаў языкі. Ужо ўсе гутарылі за сталом, усе прыймалі ўдзел у дыскусіі з прыгоды толькі што сказанай прамовы. Нарэшце, прыгожым тэнарам Тамашэвіч пачаў:

**Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,**
**Пры зборы ўсіх нас ў бяседзе такой, —**
і хор дружна і моцна падхапіў:
**Успомнім мы, брацьця, аб долі няроўнай,**
**Аб ўсіх тых, хто церпяць і голад і зьдзек*...**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 30.**

— 71 —

Песьня палілася прыгожымі хвалямі, падымаючыся ўсё вышэй і вышэй у столь, выходзячы праз адчыненыя дзьверы вузкага пакою ў калідор, і панясласа далей у чужое ей чэскае паветра. Чулася, што разам з песьняй падымаліся думы сьпеваков і няслісія на далёкую Бацькаўшчыну, у далёкае мінулае...

**Адных ужо крыюць курганы, магілы;**
**Другія сасланы за краты, ў турму..**. —

пакрываў усіх моцны голас Тамашэвіча... Ён паглядаў на Вярхоўскую з нейкай бравурнасьцяй і, здаецца, для яе стараўся выдзяліць свой голас з агульнага хору. Тугоўскі, стаўшы ў баку, пільна лавіў пагляды ўсіх зьвяртаўшых увагу на Вярхоўскую. Яна сядзела чырвоная ад сваёй "сьлівовіцы", і вочы яе гарэлі надзвычай сінім сьветам.

...Улучыўшы хвіліну, падняўся сказаць свой тост і Тугоўскі — за сьвядомых беларускіх жанчын. [...] А на заканчэньне прамовіў:

— Грамадзяне! Я не баюся палітыкі, як гэтыя прадстаўнікі дваранска-памешчыцкіх колаў на нашым грунце, — ён паказаў пальцам на Шабунеўскага з Загорскім, — як гэтыя вось беларусы з расейскіх камітэтаў.

— Я пратэстую, — крыкнуў Загорскі, стукаючы чаркай па стале.

— Так... Так... Вы пратэстуеце... прошу праўды... Можаце... — Ён прадоўжываў: — Я, грамадзяне, пэўны, што толькі сьвядомая жанчына выхавае сьвядомага беларуса, што толькі з малаком маткі ўвальецца ў кроў сьвядомасьць тых, хто пойдзе за лапцюжную Беларусь... Ніякай агітацыяй мы не даб'ёмся таго, чаго можа дабіцца сьвядомая беларуска ў сям'і, не даб'ёмся тых уплываў, якія яна можа зрабіць на мужчыну. Будзе

— 72 —

ў нас сьвядомая жанчына — будзе й беларускі рух. Дык вып'ем за здароўе беларускай жанчыны.

— Брава! Брава! — заплескала ў далоні Вярхоўская. — Я п'ю, грамадзяне, таксама за здароўе жанчыны:

— Дазвольце вашу руку, грамадзянка Вярхоўская, — папрасіў Загорскі.

Вярхоўская пачырванела... На хвіліну яна згубілася, не ведаючы, што ей рабіць. Нарэшце яна схавала сваю руку. Ён, гледзячы на яе нахальным поглядам, дэманстратыўна чакаў. Потым, не дачакаўшыся, пад насьмешкі прысутных, прадоўжываў:

— Але я пратэстую, — ён паглядзеў са злосьцяй на Тугоўскага, — проціў нягодных слоў гэтага пана. Сяньня я не хачу хавацца... Тут Тамашэвіч клікаў нас кудысьці, — як той чыжык у казцы Максіма Горкага. Але я ведаю, грамадзяне, што ёсьць вышэйшыя культуры, да якіх імкнуцца маладыя народы.

— Старая песьня! — крыкнуў Тамашэвіч...

— Рана ці позна, — прадоўжываў Загорскі, — вы прыйдзеце да вышэйшай расейскай культуры. Ня плюйце ў старую студню, прыйдзецца вады напіцца.

— Мана! — закрычаў Тамашэвіч. — Дваранска-памешчыцкім сынкам не мейсца ў нашай сям'і. Вон! — закрычаў Тугоўскі, не памятаючы больш сябе ад злосьці.

* Словы песні напісаны Паўлінай Мядзёлкай, жонкай Тамаша Грыба.

## ВЫДАННІ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"

Maksim BAGDANOVICH

THE BURNING CANDLE

Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча, якое сёлета адзначаецца, у "Бібліятэчцы "Голасу Радзімы" выйшла кніжка твораў вялікага беларускага паэта на англійскай мове. Зборнік называецца "The burning candle" ("Горящая свеча"). Жыццё-свечка паэта дагарэла рана, але яго паэзія нязгасная, яна працягвае зіхацець і сёння, асвятляючы шлях беларусам да іх адраджэння. Прыкладна так вытлумачыла сэнс назвы зборніка перакладчыца паэзіі М. Багдановіча на англійскую мову Анісья Пракоф'ева. Той, хто сочыць за нашымі выданнямі, ужо сустракаў гэта прозвішча. Яна перакладала на англійскую мову творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ніла Гілевіча. Звычайна за працу бярэцца тады, калі паэт блізкі ёй па духу, творчасць хвалюе і вабіць. Анісья Леанідаўна руская, але ў Беларусі пражыла больш за 40 гадоў, добра ведае нашу мову.

На пытанне, што натхніла яе на працу над перакладамі вершаў М. Багдановіча, А. Пракоф'ева адказала: "Сам Багдановіч". А пазнаёмілася яна з яго творчасцю спачатку праз англійскую мову, знайшоўшы некалькі вершаў паэта ў "Анталогіі беларускай паэзіі", падрыхтаванай вядомым перакладчыкам Уолтэрам Мэем.

— У анталогіі Багдановіча нямнога, і пераклад мяне не надта задаволіў. Але вершы зацікавілі. Узяла творы паэта ў арыгінале. Ён крануў мяне да глыбіні душы. Багдановіч — самабытны, ні на кога не падобны. Узрушвае і лёс паэта. Пра Максіма Багдановіча, яго сям'ю, пра мала вядомыя моманты жыцця многа цікавага расказала мне Ніна Ватацы, вядомы даследчык жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Яна мне дапамагла больш глыбока зразумець яго паэзію. Спачатку праца ішла цяжка і марудна. Я ўчытвалася, пранікалася вершамі Багдановіча, надзвычай эмацыянальнымі, складанымі, напісанымі, як мне ўяўлялася, у нейкіх цёмнасініх тонах... А потым я нібы прысмакталася, прыпала душой да творчасці незвычайнага паэта, перакладала з асалодай.

Перакладчыца ўбачыла захопленасць паэта роднай Беларуссю, любоў да яе, тонкае абвостранае адчуванне і разуменне прыроды. Не магла не ўзрушыць і любоўная лірыка, фантастычныя, казачныя творы. А. Пракоф'евай захацелася пазнаёміць з творчасцю беларускага паэта і тых, хто не ведае беларускай мовы. Спачатку перакладала паводле "Вянка", адзінага прыжыццёвага зборніка, потым карысталася іншымі крыніцамі. Многія творы на англійскую мову перакладзены ўпершыню — "Зорка Венера", "Страцім-Лебедзь".

— Чула, што "Страцім-Лебедзя" быццам бы перакладала Вера Рыч, — гаворыць А. Пракоф'ева, — але я з яе перакладам не знаёмая.

— А ці можаце вы ацаніць свае пераклады, ці задаволены гэтай работай?

— Я рэдка бываю задаволена сабой. Праца была надзвычай складанай, таму што, як я ўжо казала, складаная сама паэзія Багдановіча. Па-мойму, удаліся "Зорка Венера", "Страцім-Лебедзь", некаторыя іншыя творы. Дапамагала мне, як і ў ранейшых кніжках, Людміла Паўлаўна Картэс. Яна дасканала ведае англійскую мову. Вы ведаеце, што яна рээмігрантка, жыла ў Аргенціне, прыехала ў Мінск яшчэ ў 50-я гады. Яна была маім рэдактарам, разам з ёю мы напісалі ўступны артыкул. Акрамя вершаў, у зборніку ёсць некалькі празаічных твораў Максіма Багдановіча. Іх перакладала Людміла Паўлаўна.

Зборнік М. Багдановіча "Горящая свеча" ("The burning candle") выйшаў з друку. Нашы суайчыннікі за мяжой, усе тыя, хто цікавяцца беларускай паэзіяй, пазнаёмяцца з ёю на англійскай мове. Такі наш уклад у святкаванне 100-гадовага юбілею славутага земляка.

**Дз. ЧАРКАСАВА.**

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# І ЗНОЎ ЛІТОЎСКАЕ ПЫТАННЕ

Прачытаўшы ў газэце "Голас Радзімы" ад 4-га красавіка 1991 года за № 14 артыкул пра М. Ермаловіча "Збіраць зярнятка да зярнятка", я быў проста ўсхваляваны, што хоць адзін чалавек знайшоўся за 72 гады існаваньня Савецкай улады напісаць праўду пра нашу гістарычную спадчыну, а "Голас Радзімы" гэту праўду надрукаваў. Праўда, я і нашы беларускія суродзічы за мяжой мала хто чытаў яго кніжку, а мо і ніхто, але яе рэха гучна адаб'ецца ў беларускіх колах на эміграцыі, бо гэта гістарычная спадчына турбуе многіх беларусістаў. Я асабіста поўнасьцю пагаджаюся з гісторыкам М. Ермаловічам і дасылаю вам у вашу газэту копію рэферата, які быў зроблены на 6-й сустрэчы беларусаў Аўстраліі ў 1985 годзе адносна назову Беларусь — Вялікае княства Літоўскае.

Янка **РОЛСАН.**

Аўстралія.

**АД РЭДАКЦЫІ:** рэферат, дасланы ў рэдакцыю Янкам Ролсанам, уяўляе пэўную цікавасць хаця б у тым плане, што пацвярджае меркаванні М. Ермаловіча і іншых аўтараў адносна паходжання назвы і характару Вялікага княства Літоўскага. Наш зямляк паведамляе, што яго праца не з'яўляецца навуковым даследаваннем, а толькі абагульняе вывады вядомых у вольным свеце навукоўцаў. Мы падаем некалькі ўрыўкаў са згаданага рэферата.

**Прывяду некалькі фактаў і доказаў, што арганізатарамі Вялікага княства Літоўскага былі беларусы, а не жамойцы.**

**1. Балты займалі амаль усю этнічную тэрыторыю Беларусі, але пад ціскам продкаў беларусаў гублялі яе на карысьць беларусаў, і балты былі прыціснуты да мора.**

**2. ВКЛ узнікла на этнічнай беларускай тэрыторыі і развівалася на аснове беларускай мовы і культуры.**

**3. Калі жамойцы былі дзяржаўны народ, чаму яны не пакінулі ніводнай пісанай памяткі ў сваёй мове?**

**4. Статут ВКЛ быў выданы на беларускай мове, а не на жамойцкай, бо беларусы былі асноўнымі жыхарамі ВКЛ і складалі 4/5-х усяго насельніцтва.**

**5. Адміністрацыйныя назовы былі ў беларускай мове.**

**6. Гэрб ВКЛ мае Беларускі назоў "Пагоня", што значыць, нечакана наляцець на ворага, разьбіць яго і быць у пагоні за ім.**

**7. Беларускі народ вынес цяжар змаганьняў супроць акупанцкіх прэтэнзіяў Польшчы і шматлікіх крывавых войнаў з Маскоўшчынай.**

**8. У 1963-м годзе ў Менску выдадзены зборнік гістарычных дакументаў з 1570-га па 1662-гі год, які наглядна паказвае, што ў тыя часы пад словам Літва, ліцьвін выступаюць Беларусь, беларусы.**

**9. Пануючай нацыяй у ВКЛ былі беларусы, яны лічылі і лічаць ВКЛ дзяржавай беларускага народа.**

***

**Калі ставіцца пытаньне аб назове Беларусь, то справа тут ясная, бо падзеі, звязаныя з гэтым назовам, адбываліся ўжо ў часы навейшай гісторыі ў XVI і XX стагоддзях і шмат гістарычных дакументаў аб гэтых падзеях захавалася.**

**Слова Русь прыйшло на нашыя землі не ў значэньні нацыянальным, а ў значэньні рэлігійным.**

**Калі ў 988--м годзе князь Кіеўскай Русі Уладзімір Вялікі ахрысьціў у праваслаўную веру свой народ, вера гэтая пашырылася па Дняпры і Прыпяці на нашыя землі, і нашыя продкі, што жылі тут, якія не зваліся русіны-рускія, а мелі свой пляменны назоў, як крывічы, дрыгавічы і другія, атрымаўшы праваслаўную веру з Кіеўскай Русі, звалі яе "рускай верай" (не расейская, бо Расеі як назвы дзяржавы тады яшчэ не было).**

**Пазьней у часы ВКЛ, калі жыхары яго мелі свой нацыянальны назоў ліцьвіны, дык праваслаўныя зваліся ліцьвінамі рускай веры, пратэстанты, люцеране зваліся ліцьвінамі нямецкай веры, каталікі — ліцьвінамі польскай веры.**

**З прыходам праваслаўнай веры на нашыя землі прыйшло і пісьмо ў царкоўна-славянскай мове, і мову гэтую сталі зваць рускай, а потым і беларускую мову — мову вернікаў рускай веры сталі зваць рускай мовай.**

**З даўнейшых часоў слова БЕЛЫ ў дачыненьні да чалавека, грамады, дзяржавы азначала вольны, незалежны (не плаціць даньпадаткаў), а слова ЧОРНЫ — нявольны.**

* * *

**У мінулым наш народ сам сябе не зваў беларусамі, а ліцьвінамі, так звалі нас і другія народы.**

**Пасьля захопу нашых зямель Расеяй у 1792—1793 і 1795-х гадах некаторы час існавалі беларускія губерні ва ўсходняй частцы ВКЛ і літоўскія губерні ў заходняй частцы ВКЛ, але з 25/6 1840-га году спынілася дзеяньне Літоўскага Статута, а нашу краіну сталі зваць Паўночна-Заходні край Расеі.**

**У часы паўстаньня Каліноўскага ён аб'явіў сябе кіраўнікам і вызваліцелем Літвы ад расейскай няволі і выдаваў газэту "Мужыцкая праўда" ў беларускай мове, дык пасля чаго быў забаронены друк у беларускай мове, які трываў аж да 1905-га году, былі забаронены ўсе старыя нашы назовы і назоў Літва, ліцьвін, і яны далі нам новы назоў Беларусь, беларусы.**

**А каб пазбавіць адзінства ліцьвінаў, наш народ падзялілі і сталі зваць: праваслаўных — рускімі, жамойцаў — літоўцамі, католікаў — палякамі.**

**У сувязі з забаронай назову Літва наша інтэлігенцыя, ды асабліва пасьля паўстаньня Каліноўскага, пісьменнікі і навукоўцы на чале з пісьменьнікам Багушэвічам сталі пашыраць назоў Беларусь-беларусы як нацыянальны назоў краю і народу.**

**Паварот да старога назову Літва і ліцьвін не меў сэнсу, бо ў дзяржаўным значэньні ён быў забаронены.**

**У гэтым выпадку назоў Літва, літоўцы расейскі ўрад перадаў жамойцам, і ён у расейскай навуковай літэратуры замацаваўся. Назоў Беларусь-беларусы таксама замацаваўся, бо гэтыя назовы не былі забаронены.**

**Асабліва прылажылася да пашырэньня назову Беларусь, беларусы газэта "Наша ніва", якая выдавалася ў беларускай мове з 1906-га да 1915-га году.**

**У 1918-м годзе, калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясьціла Актам 25-га Сакавіка Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай, дык назоў Беларусь стаўся назовам дзяржаўным у міжнародным значэньні, а потым замацаваўся, як назоў дзяржаўны пры арганізацыі Беларускай Савецкай Рэспублікі.**



**Віцебск. Плошча Перамогі.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

## УДЗЯЧНА ГАЗЕЦЕ

**Паважаная рэдакцыя!**

Вялікае вам **дзякуй, што** з увагай чытаеце мае пісьмы. Гэта мяне вельмі **цешыць, за гэта** я вам удзячна, як і за вашу работу. **Шмат гадоў назад у мяне наогул не было** ніякай сувязі з Радзімай. Вайна закінула мяне спачатку ў канцлагер у Германію, потым пасля многіх блуканняў у Італію, дзе я і засталася, раздзяліўшы лёс з мужам-італьянцам. Праз 14 гадоў змагла я тады адшукаць бацьку і маці. Толькі ваша газета дапамагла мне не забыць родную мову, хоць спачатку мне было цяжка на ёй чытаць. Я ж адно нарадзілася ў Барысаве, а жыла ў многіх гарадах Расіі ў сувязі з пераездамі, звязанымі з бацькавай работай. Дык вось, я чытала "Голас Радзімы", адкладвала на 2-3 дні, потым зноў перачытвала. Многае вывучвала напамяць. Дзякуй вам вялікае і поспехаў.

Леанарда **МАЛЕЕВА.**

Італія.

*ПАКЛАПОЦІМСЯ ПРА ЛЁС СВАЁЙ МОВЫ — ПАКЛАПОЦІМСЯ ПРА БУДУЧЫНЮ*

# МЕНЕЙ СЛОЎ, БОЛЕЙ СПРАЎ

14—15 чэрвеня ў Доме літаратара ў Мінску працаваў II з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Больш за дзве з паловай сотні дэлегатаў — прадстаўнікоў суполак ТБМ з Беларусі, з іншых рэспублік, з замежжа сабраліся тут. Прагучалі ўсхваляваныя выступленні настаўнікаў, выхавацеляў, дзеячаў нашай культуры, навукі і мастацтва, іншых энтузіястаў, якія шмат робяць дзеля адраджэння роднай мовы, а таксама грунтоўны даклад старшыні Таварыства Н. Гілевіча, дзе была прааналізавана сучасная сітуацыя і грамадска-палітычная атмасфера, у якой узнікла і пачало сваю дзейнасць ТБМ.

На фоне дзесяткаў існуючых сёння ў Беларусі грамадскіх арганізацый ТБМ вылучаецца не толькі колькасцю сваіх сяброў і прыхільнікаў, але і ўсё ўзрастаючым аўтарытэтам, уплывам на жыццё грамадства. Зразумела, што і з'езд гэтага Таварыства стаў прыкметнай з'явай.

— На ім панавала дзелавая атмасфера, што прыемна адзначыць, — кажа галоўны сакратар Рэспубліканскай Рады Таварыства Яўген Цумараў. — Усе мы стаміліся ад залішняй палітызацыі. Хаця пытанні мовы — гэта безумоўна і пытанні палітыкі. Палітычныя ж пытанні вырашаюцца ў спакойнай атмасферы. Ад мітынговасці мы пачынаем пераходзіць да нармальнай канструктыўнай працы. Бо беларусізацыю аднымі заклікамі нам ніколі не ажыццявіць, патрэбна доўгая карпатлівая праца, патрэбна цярплівасць і самаадданасць у гэтай справе.

— ТБМ прымае самы актыўны ўдзел у беларусізацыі. Ці адчуваецца нейкае супраціўленне гэтаму працэсу?

— Ёсць, безумоўна, у нас такая з'ява. Яна вынікае з агульнага кансерватызму мыслення людзей, культурнага стану грамадства, калі быць больш дакладным, яго нацыянальнай свядомасці. А наша грамадства, як вядома, не дужа шануе культуру. Дзяржаўныя структуры, я б сказаў, ціха супраціўляюцца. Яны проста не хочуць нічога мяняць, мець залішні клопат. Тым больш, што маюць гарантаваныя Законам 3—5—7 гадоў, адпушчаныя на аваладанне мовай. Узяць хаця б Упраўленне па справах Савета Міністраў БССР. Гэта даволі вялікая служба вядзе ўсе свае справы па-руску. Пакуль не ўмяшалася Таварыства, Камісія Вярхоўнага Савета БССР па культуры і адукацыі, зрухаў не было. Цяпер жа там арганізаваны курсы па вывучэнню мовы, збіраюцца пераводзіць усё справаводства на родную мову. Зрушыліся з месца справы ў апараце ЦК КПБ.

— Яўген Аляксандравіч, як, на вашу думку, суадносяцца тэндэнцыя да нацыянальнага адраджэння і даволі цяжкое, амаль што крытычнае становішча беларускамоўнай прэсы, з'яўленне шэрагу выданняў у Беларусі на рускай мове. Як да гэтага ставіцца ТБМ?

— Мы праверылі работу Мінскага гарадскога аддзялення «Саюздруку» ў сакавіку і высветлілі наступнае: кіёскі завалены самымі рознымі выданнямі — і кааператыўнымі, і дзяржаўнымі, і грамадскімі. (І ў асноўным гэта рускамоўныя выданні.) Тут і парнаграфія, і на мяжы парнаграфіі. Беларускія ж выданні ў гэтым вялікім стосе, як правіла, кепска ляжаць, іх не відаць, зусім не рэкламуюцца. Тысячы нумароў "Свабоды", "Навін БНФ", нават унікальны першы нумар "Спадчыны" за 1991 год былі спісаны, праляжаўшы недзе ў закутках кіёскаў. Ганебная з'ява, калі нехта не можа купіць тое, што яму трэба. (А ў беларускамоўных выданняў ёсць свой чытач.) Хаця цалкам на работнікаў «Саюздруку» нельга ўзвальваць усю адказнасць. Яны ў вельмі складаным становішчы. Выйсце з такой сітуацыі мы бачым у стварэнні асацыяцыі беларускіх выданняў, каб яны ў кожным горадзе, мястэчку мелі сваю базу — 1, 2, 3, 4 кіёскі, дзе можна было б рэалізаваць сваю прадукцыю. ТБМ мае ўжо ў Мінску 4 кіёскі. Адзін з іх дзейнічае, і прыбытак мае амаль чатыры з паловай тысячы рублёў, астатнія тры ўстанаўліваюцца. А ўвогуле трэба адзначыць, што рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання не ствараюць належных умоў для пашырэння беларускага перыядычнага друку. Так, усе новыя дзяржаўныя выданні, заснаваныя ў апошнія гады ("7 дней", "Народная газета", "Рэспубліка"), або выходзяць на рускай мове, або друкуюцца на дзвюх мовах, прычым з меншай доляй у іх беларускамоўных матэрыялаў. Хіба гэта не свядомае ігнараванне Закона, не свядомае супраціўленне беларусізацыі і адраджэнню беларускай нацыі?

— Скажыце, чаго дамаглося Таварыства беларускай мовы за прайшоўшыя два гады?

—Па-першае, створаны суполкі і арганізацыі Таварыства на ўсёй тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі — паўсюль, дзе жывуць беларусы, нават і ў замежжы. Па-другое, створаны курсы і гурткі па вывучэнню беларускай мовы ў дзяржаўных установах, тэхнікумах і вучылішчах. Праўда, справа тут рухаецца не так хутка, як хацелася б. Таварыства распачало сваю выдавецкую дзейнасць — выдае бюлетэнь "Наша слова", які з 1991 года стаў фінансавацца ўжо дзяржавай.

Сіламі Таварыства беларускай мовы пачалі выдавацца на нацыянальнай мове рэспублікі мясцовыя перыядычныя выданні ў Маладзечне і Навагрудку. ТБМ распачало выданне беларускіх слоўнікаў і навуковых кніг, а таксама сувенірнай прадукцыі. І самае галоўнае, я лічу, што створаны прававы калідор, прававая аснова. Гэта і Закон аб мовах, і Закон аб культуры, прыняты ў першым чытанні Закон аб адукацыі. Цяпер Саўмін абяцае перадаць нам фабрыку, друкарню, аўтобус, абсталяваны гукаўзмацняльнай апаратурай, каб агітацыйная брыгада магла ездзіць па вёсках і гарадах. Клапоцімся, каб стварыць сваю матэрыяльна-тэхнічную базу, бо без яе не можам арганізаваць буйнамаштабныя акцыі ў карысць беларускай культуры і мовы.

Таварыства мае цяпер моцную сацыяльную падтрымку ва ўсіх слаях насельніцтва. Адбыўся зрух у грамадскай свядомасці. І хаця за сваю мову нам трэба ўсё яшчэ змагацца, адстойваючы яе, тым не менш ёсць падставы казаць, што справы зрушыліся з месца. І трэба меней лозунгаў і заклікаў, а болей практычных спраў. Да чаго я і заклікаю кожнага беларуса, кожнага, хто жыве ў Беларусі.

**Гутарку вяла**
**Таццяна АНТОНАВА.**

# *ПАСТАНОВА*

## II З'ЕЗДА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

1. З'езд ухваляе дзейнасць органаў дзяржаўнага кіравання, народнай гаспадаркі, грамадскіх аб'яднанняў, усіх прыхільнікаў беларускага слова, скіраваную на ажыццяўленне Закона аб мовах у Беларускай ССР і выказваецца за цеснае супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі ў адраджэнні беларускага слова дзяржаўнымі і грамадскімі структурамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі рэспублікі і за аказанне ім у гэтай высакароднай дзейнасці ўсямернай падтрымкі з боку Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

У парадку заканадаўчай ініцыятывы з'езд выказвае прапанову Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў Беларускай ССР унесці змены ў структуры і рэгламент працы Саветаў народных дэпутатаў рэспублікі ўсіх узроўняў, накіраваныя на стварэнне пры іх паўнамоцных камісій з ліку народных дэпутатаў, актывістаў Таварыства беларускай мовы і іншых патрыятычных грамадска-культурных арганізацый, работнікаў нацыянальнай сістэмы адукацыі, культуры, прыхільнікаў беларускага слова — дзеля забеспячэння і каардынацыі дзейнасці Саветаў, органаў выканаўчай і судовай улады, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый у межах адпаведнай тэрыторыі па ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР; мэтазгодна вызначыць у складзе Савета Міністраў Беларускай ССР, органаў мясцовага самакіравання асоб, адказных за ўсебаковае, своечасовае і ў шэрагу выпадкаў паскоранае ажыццяўленне Дзяржаўнай праграмы, зацверджанай урадам у адпаведнасці з Законам аб мовах у Беларускай ССР.

2. Даручыць Рэспубліканскай Радзе ТБМ вывучыць выказаныя на з'ездзе прапановы і крытычныя заўвагі і ў межах кампетэнцыі Таварыства прыняць да выканання тыя з іх, якія скіраваны на пашырэнне і ўдасканальванне статутнай дзейнасці Таварыства беларускай мовы.

# *ПАСТАНОВА*

## II З'ЕЗД ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ "ДА ПЫТАННЯ АБ РЭФОРМЕ ПРАВАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ"

Адзначаючы, што рэформа правапісу 1933 года была гвалтоўнай, прывяла да істотнага збяднення беларускай літаратурнай мовы і мела палітычныя мэты, скіраваныя на выцясненне яе з грамадскага ўжытку ў Беларусі, з'езд рашуча выказваецца за неадкладнае вяртанне беларускай літаратурнай мове яе нацыянальнага аблічча. Разам з тым, высакароднай справе нацыянальнага адраджэння Беларусі, пашырэння беларускай мовы і культуры ў рэспубліцы, еднасці беларусаў ва ўсім свеце не спрыяе наяўнасць у сучаснай беларускай літаратурнай мове дзвюх правапісных нормаў. Кансалідаваная, культурная нацыя мусіць мець адзіны правапіс.

З'езд даручае Камісіі Таварыства па ўдасканальванню правапісу да канца 1991 года выпрацаваць праект асноўных напрамкаў удасканальвання правапісу беларускай літаратурнай мовы і вынесці яго на абмеркаванне грамадскасці.

# ЗВАРОТ

## ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ, ДА БЕЛАРУСАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ, ДА ПРЫХІЛЬНІКАЎ БЕЛАРУСКАГА СЛОВА

Шаноўныя беларусы! Прыхільнікі беларускага слова!

— Мінула два гады, як адбыўся Устаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. За гэты час унесены важкі ўклад у справу абароны і пашырэння беларускага слова не толькі на Беларусі, але і за яе межамі. Прыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР, зацверджана Дзяржаўная праграма яго ажыццяўлення. Прыняты Закон аб культуры, разгледжаны ў першым чытанні Закон аб адукацыі. Шмат карысных спраў робяць арганізацыі Таварыства беларускай мовы ў Вярхоўным Савеце і Савеце Міністраў БССР, у шэрагу мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. Суполкі ТБМ ёсць на Украіне, у Расіі, Літве, Латвіі, Эстоніі, Карэліі, Казахстане. Створаны яны таксама ў ЗША, Канадзе, Аўстрыі, Італіі, Польшчы...

Аднак і сёння, як дзесяць, трыццаць, пяцьдзесят гадоў назад, святая святых нацыянальнай культуры — беларуская мова — у небяспецы! Мы не здолелі яшчэ адысці ад мяжы духоўнага знікнення. Яшчэ раскашуе на нашай зямлі прававы і нацыянальны нігілізм. На фоне цяжкай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы апошнім часам становішча беларускай мовы ў пэўных сферах грамадскага жыцця не палепшылася, а нават пагоршылася.

Закон аб мовах у Беларускай ССР, які з такой цяжкасцю быў прыняты, ігнаруецца — перш за ўсё дзяржаўнымі структурамі. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, пераважная большасць народных дэпутатаў Беларусі і членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, урада БССР не даюць прыкладу паважлівага стаўлення да беларускай мовы, хаця закон прыняты парламентам. Дзе яшчэ ў свеце можна знайсці такое, каб закон аб мовах ігнараваўся большасцю саміх заканадаўцаў? Таму не дзіва, што Дзяржаўная праграма па ажыццяўленні Закона аб мовах у Беларускай ССР, Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі пакуль не сталі абавязкам у службовай дзейнасці кожнага дзяржаўнага служачага — ад міністра да работніка ніжэйшага звяна.

Вельмі слаба асвятляе чарговую "беларусізацыю" на сваіх старонках рэспубліканскі друк. Мала таго, у некаторых выданнях з'явіліся зневажальныя публікацыі ў адносінах да нашай мовы, дзеячаў беларускай культуры, пісьменнікаў. Ні ў адной краіне народ не дазволіў бы, каб так ахайваліся яго святыні, лепшыя прадстаўнікі нацыі. Гэта толькі цярплівыя беларусы могуць зносіць такое. Але далей так жыць нельга!

Мы, дэлегаты II з'езда Таварыства беларускай мовы, пасланцы рабочых, сялян, інтэлігенцыі, прадстаўнікі розных партый і беспартыйных, атэісты і набожныя, заклікаем усіх грамадзян Беларускай ССР паважаць, ахоўваць і развіваць духоўныя скарбы народа Беларусі, авалодваць беларускай мовай і шанаваць яе.

Мы звяртаемся да ўсіх беларусаў, якія жывуць па-за сваёю Бацькаўшчынай, смялей далучацца да нашых клопатаў, словам і справай дапамагаць адраджэнню мовы роднай зямлі.

Мы звяртаемся да народных дэпутатаў рэспублікі і заклікаем іх рабіць усё магчымае, каб карэнны народ Беларусі мог плённа і поўна рэалізоўваць свой духоўны і культурны патэнцыял ва ўласным доме. Заклікаем беларусаў з пашанай ставіцца да культур і моў людзей іншых нацыянальнасцей на Беларусі. Дапаможам ім адчуваць сябе не чужымі на нашай зямлі, каб яны ахвотна спасцігалі нашу гісторыю і культуру, вывучалі беларускую мову.

Звяртаемся да ўсіх грамадскіх арганізацый рэспублікі, вернікаў усіх канфесій з заклікам шанаваць беларускую мову як дзяржаўную і ўсямерна спрыяць яе пашырэнню ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Заклікаем пісьменнікаў, работнікаў асветы, культуры, сродкаў масавай інфармацыі шырэй прапагандаваць беларускую мову на ўсіх узроўнях, смела выкрываць факты ігнаравання яе асобамі любога рангу.

Суайчыннікі! Культура нацыі без культуры роднай мовы — бяссэнсіца. Таму ўдасканальвайце веды па беларускай мове, ахвотна вывучайце яе. Стварайце суполкі Таварыства беларускай мовы паўсюль, дзе іх няма. Старайцеся ўсімі сіламі абудзіць гістарычную памяць у тых, каго яшчэ трымае ў палоне ганебны нацыянальны нігілізм. Сваім асабістым прыкладам паказвайце, як павінна гучаць беларускае слова ў вуснах кожнага жыхара рэспублікі.

Дык няхай квітнее гэтае слова на нашай зямлі ва ўсе будні і ў святы! Жыве Беларусь!

# УХВАЛА 2-ГА З'ЕЗДУ ТБМ

## ДА ПЫТАНЬНЯ ПРА САЮЗНЫ ДАГАВОР

2-гі Зьезд ТБМ імя Фр. Скарыны заяўляе, што выкананьне статутовых мэтаў Таварыства, ключавая й канцавая зь якіх — дасягненьне беларускаю мовай рэальнага статусу дзяржаўнай мовы на Беларусі, яе выратаваньне й адраджэньне — магчымае толькі пры ўмове палітычнае незалежнасьці Беларускае дзяржавы. Зьезд зьвяртаецца да Вярхоўнага Савету Беларусі з настойлівым патрабаваньнем надаць Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР канстытуцыйны статус, не дапусьціць уступленьня Беларусі ў палітычныя саюзы й падпісаньня ёю адпаведных пагадненьняў да прыняцьця Канстытуцыі сувэрэннае Рэспублікі Беларусі. Толькі незалежная дэмакратычная Беларусь — гарант прыярытэтных правоў і гістарычнае пэрспэктывы беларускае мовы — зможа адстаяць і захаваць дзеля агульналюдзкага дабра сваю культурную самабытнасць.

## *З ДАКЛАДА Н. ГІЛЕВІЧА НА II З'ЕЗДЗЕ ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ*

Беларусь уступіла ў вельмі адказную паласу свайго гістарычнага развіцця. Без усведамлення гэтага, без асабістай гатоўнасці кожнага падключыцца да Адраджэння, да беларусізацыі ўсяго нашага жыцця — беларускі народ як нацыя не ўваскрэсне, Беларусь як дзяржава не здзейсніцца. Вось чаму дзейнасць Таварыства беларускай мовы найцесным чынам звязана з беларускай ідэяй у яе агульным сэнсе і практычна падпарадкавана задачы нацыянальнага Адраджэння Беларусі.

* * *

Не партыйным і не сацыяльна-класавым крытэрыем трэба нам, дбаючы пра ТБМ, кіравацца, а толькі любоўю да роднага слова і верай у яго прыгажосць і сілу! І радыкал-дэмакрат, раўнадушны да лёсу нашае мовы, а значыць і нашае нацыі, нічуць не лепшы для нас, чым гэтакі ж раўнадушны партакрат-камуніст. Гэтаксама, як абыякавы да роднае мовы беларус праваслаўнае веры не менш грэшны перад Богам, як гэтакі ж абыякавы беларус-католік. Мова павінна яднаць усіх нас, мова!..

* * *

Усім, каму сёння балюча за стан нашае мовы, трэба ясна ўсвядоміць неабходнасць кансалідацыі і згуртавання нашых шэрагаў, зразумець тую вялізную шкоду, якую прычыняе справе адраджэння беларускай мовы і культуры неразумная канфрантацыя, разлад і нязгода.

***

Колькі стагоддзяў назад за жыццё нашай мовы змагаліся Скарына, Будны, Цяпінскі, Сапега і іншыя вялікія, паўтараста ці трохі менш гадоў назад за яе жыццё змагаліся Дунін-Марцінкевіч, Каліноўскі, Багушэвіч і іншыя вялікія, на пачатку XX стагоддзя за жыццё роднага слова змагаліся Купала, Колас, Цётка, Багдановіч, Гарэцкі і іншыя вялікія, пазней — за яе жыццё пайшлі на Калыму, на Салаўкі або ў Курапаты тысячы і тысячы іншых, і вялікіх і радавых патрыётаў Бацькаўшчыны. Прайшло яшчэ паўстагоддзя, завяршаецца XX век — і што ж? А ўсё тое ж: барацьба працягваецца! І сёння наша мова застаецца на асобым становішчы. І сёння мы думаем і клапоцімся аб тым, як яе ўратаваць, што мы маем рабіць, каб наш беларускі народ не страціў сваю мову канчаткова. Што ж гэта за такая праклятая доля, калі цягам цэлых стагоддзяў мы вымушаны адваёўваць для роднае мовы права на жыццё? Ці не задоўга гэтае змаганне цягнецца? Ці не пара рашуча пакончыць з гэтым бяспраўным становішчам народа і яго культуры? Ці не пара ўсім зласліўцам-нядобразычліўцам нашым, як і ўсім тутэйшым слепакам, зразумець, што геній нашае мовы несмяротны, што яе сіла і моц неадольныя, і што ўсе намаганнні паглынуць яе, растварыць у стыхіі іншай мовы — марныя?

***

Трэба пакончыць з гвалтоўнай палітызацыяй і ідэалагізацыяй у мове, у нашай тапаніміцы і антрапаніміі, зрабіць жыццё мовы, развіццё яе жывога арганізму свабодным і натуральным, што магчыма толькі тады, калі ў сваіх адносінах да мовы, да яе граматыкі, да яе слоўніка, сінтаксісу і фразеалогіі будзем абапірацца на навукова-аб'ектыўныя асновы, будзем паважаць вялікую навуку лінгвістыку, помнячы, што гэта навука не толькі пра законы развіцця мовы, пра структуру і жыццядзейнасць Слова, якое было напачатку і якое было Бог, але і навука пра законы развіцця чалавека, пра лад і жыццё душы чалавечай, душы народа.

**Матэрыялы гэтай старонкі прысвечаны нядаўна прайшоўшаму II з'езду Таварыства беларускай мовы. Мы друкуем асноўныя дакументы, прынятыя з'ездам.**

*НАТАТКІ КРАЯЗНАЎЦЫ*

# МАЛАДЗЕЧНА-МІНСК-УРАЛ, А ДАЛЕЙ-УСЮДЫ

А вось яшчэ адзін "бадзяка" з Беларусі Тамаш Булгак. Ён тут бываў раней, чалавек, сасланы яшчэ па палітычнаму працэсу Сымона Канарскага. Праўда, яго ўжо былі адпусцілі па амністыі, але ж бура паўстання на Наваградчыне ў 1863 годзе зноў зачапіла яго сваім крылом. І вось гэты стары чалавек зноў у сібірскай тайзе. Сюды прыехала добраахвотна і яго жонка. Яны пройдуць разам усе выпрабаванні лёсу, вернуцца дамоў і напішуць свае мемуары. Тады ж з імі жыў доктар Дабравольскі, таксама выгнаннік. Усе людзі адукаваныя, інтэлігентныя, цвёрдыя духам. Панцялееў прызнаў у іх смеласць, незалежнасць, прагрэсіўнасць поглядаў.

Пасля поўначы закончыў чытаць Л. Панцялеева. Яшчэ бегла паглядзеў яго ўспаміны пра М. Салтыкова-Шчадрына і М. Чарнышэўскага. Сам аўтар мемуараў — равеснік нашаму Ф. Багушэвічу. Ён сябраваў з многімі вядомымі людзьмі дзевятнаццатага стагоддзя, у тым ліку з ужо памянёнымі А. Дэспат-Зяновічам і Л. Родзевічам. На форзацы кнігі названы выданні, якія Л. Панцялееў (1840—1919) пасля ссылкі выдаў у сваёй друкарні, сярод іх творы Спінозы, Платона, Тацыта, Мантэск'е і іншых. Выдаваў ён і папулярную ў той час серыю "Гістарычныя чытанні".

Закрыў кніжку і ў думках яшчэ раз падзякаваў за яе ўральскаму добрызычліўцу. Толькі чаму перадаў мне, маладзечанцу? Можа таму, што ў дадатку гутарка ідзе пра "арганізаваныя пажары" ў 1862—1863 гадах у Лебедзеве, Гарадку, Вілейцы, Даўгінаве. А гэта ўсё ж мае мясціны.

### ДАПЫТЛІВАСЦЬ

Развітаўся са сваім новым знаёмым краязнаўцам і ўжо абамлелымі нагамі паціху рухаюся ў бок гатэля. Чую ззаду шпаркую хаду, прадчуваю новую сустрэчу. Паварочваюся і бачу хударлявую постаць са светлым адкрытым тварам і русымі валасамі, блакітнымі вачыма, прамым носам. У абліччы сама дабрыня.

— Даруйце, я чуў, што вы з Беларусі?

— Так.

— Не, я не беларус, чыстакроўны русак, з Аляксандрава Уладзімірскай вобласці, — нібы просячы прабачэння, энергічна загаварыў яшчэ адзін калега. — Я сам займаюся гісторыяй свайго горада і раёна. Вельмі захоплены мікратапанімікай. І ведаеце, што яна паказвае? А паказвае яна вось што. Сляды маіх продкаў вядуць на Полаччыну, на Падзвінне. Вас гэта не цікавіць?

— Па праву краязнаўца мяне ўсё турбуе, але ў сваёй навуковай практыцы з гэтым не сустракаўся.

Прыселі, пазнаёміліся. У маю запісную кніжачку ўвайшло яшчэ адно імя: Стрыганаў Леў Сяргеевіч.

— Кім жа вы працуеце?

— Я інжынер і часу на краязнаўства, ой як не хапае. Працую вечарамі. А як выхадны, саджуся на электрычку і еду з Аляксандрава ў Маскву, у бібліятэку Леніна. Працаваў і ў архівах. Мяне цікавяць пісьмовыя крыніцы сярэднявечча. За многія гады сабраўся багацейшы матэрыял. Пачаў з тапонімаў, мікратапомінаў, гідронімаў. Унікальныя супадзенні з Полаччынай. Па маіх меркаваннях, пад уплывам пэўных ваенна-палітычных навальніц насельнікі старажытнай Полаччыны перасоўваліся ў паўночна-ўсходнім напрамку на Цвер, а потым і на Аляксандраў.

— А чаму не наадварот адбываўся рух?

— Такое не магло быць. Самі тапонімы ўжо ў нас прымалі абноўленую форму. У вас жа, на Полаччыне, яны больш архаічныя. Да таго ж на беларускай зямлі арэал тапонімаў, напрыклад, Слабада, больш пашыраны, а ў нас яны ёсць на абмежаванай тэрыторыі. Вось чаму я перакананы, што перасяленцы былі з Беларусі, а не наадварот.

— Як вам удалося сабраць такі каштоўны матэрыял? — пытаюся ў аляксандраўскага калегі.

— Для гэтага заняўся лінгвістыкай, фальклорам, этнаграфіяй. Толькі ў мяне ёсць цяжкасці з літаратурай Полаччыны. Загадкі гісторыі вымагаюць ведаць надта шмат. Вось прыклад. У старадаўніх сяленнях каля Аляксандрава бытуе мужчынскае імя Масей і больш на Уладзіміршчыне нідзе не сустрэнеш. Гэтае ж імя ёсць і ў вас на Беларусі, на яе паўночна-ўсходніх абшарах. І на Беларусі яно больш пашыранае.

— Запішыце сабе для памяці, што на Беларусі ёсць паэт Масей Сяднёў. Сапраўды, ён з Усходняй Беларусі, — даю свайму калегу інфармацыю для роздуму.

Леў Сяргеевіч таропка заносіць у свой брульёнчык новыя звесткі, якія я яму падкінуў. Ён працягваў перапытваць пра беларускія формы тапонімаў, дзе яны найбольш распаўсюджаны.

Як я пашкадаваў, што не змог падтрымаць гаворку на тым жа высокім энтузіязме, які жыве ў майго калегі.

На жаль, у Стрыганава заставалася адна гадзіна да адпраўлення цягніка, і ён паспяшыў у гатэль. Расталіся мы з ім як быццам даўным даўно ведалі адзін другога. І першы ліст, які я атрымаў ад новых знаёмых, быў з Аляксандрава. Вось вам і выпадковая сустрэча.

### АЛЯКСАНДР ГРЫН — СЫН БЕЛАРУСКАГА ПАЎСТАНЦА

У аўтабіяграфіі (1913) вядомага рускага пісьменніка чытаем: "Мой бацька, Сцяпан Яўсеевіч Грынеўскі, паходзіў са шляхты Віленскай губерні. Дзядуля, г. зн. бацька майго бацькі, быў буйным маянткоўцам Дзісненскага павета. У 1869 годзе бацька па справе польскага паўстання быў арыштаваны, прасядзеў тры гады ў турме, а затым прабыў два гады ў ссылцы... Маёнтак, разумеецца, канфіскавалі. Вызвалены агульнай амністыяй таго часу, бацька пехатой дабраўся да Вяткі і тут у канцы канцоў абаснаваўся". Дарэчы, Сцяпана Грынеўскага арыштавалі, калі ён яшчэ вучыўся ў шостым класе Віцебскай гімназіі.

Будучы пісьменнік нарадзіўся ў горадзе Слабадскім 11/23/ жніўня 1880 года, дзе нейкі час працаваў яго бацька. Усё ж сям'я вярнулася ў Вятку, і Сцяпан Грынеўскі (1843—1914) больш за трыццаць гадоў працаваў па бухгалтарскай частцы, а з 1894 года і да смерці — наглядчыкам губернскай земскай бальніцы. Тут Аляксандр Грын вучыўся ў рэальным вучылішчы, потым у гарадскім. У бацькі была някепская бібліятэка, і сын шмат здабываў ведаў самаадукацыяй.

Дарогі жыцця А. Грына аказаліся поўныя прыгод. Дзе ён толькі ні быў: і матросам у Адэсе, і ў Баку на рыбных промыслах, і лазеншчыкам на станцыі Мурашы Перм-Котласкай дарогі, і рабочым на Пашыйскіх прыісках, у жалезных рудніках сяла Кушва, што ля гары Благадаць, на тарфяніках і нават дрывасекам. Быў яшчэ салдатам, ды дэзерціраваў са службы. Вандраваў па ўсёй Расіі. У 1903 годзе за рэвалюцыйную прапаганду сярод матросаў А. Грына арыштавалі ў Севастопалі. У аўтабіяграфіі пісаў: "Я прасядзеў амаль два гады. Мяне прысудзілі да пазбаўлення ўсіх правоў і бестэрміновай ссылкі на пасяленне. 17 кастрычніка 1905 года вызваліла мяне. У снежні таго ж года я быў арыштаваны ў Пецярбургу і ў пачатку ліпеня 1906 года высланы адміністрацыйна ў Турыйск Табольскай губерні, адкуль праз дзень уцёк.."

Што і казаць, вельмі насычаным аказалася жыццё Аляксандра Сцяпанавіча Грына (Грынеўскага). Такога жыцця хапіла б любому пісьменніку на некалькі дзесяткаў кніг. Шмат пісаў і ён: вершы, прозу, п'есы, сцэнарыі...

У бібліяграфіі пісьменніка звычайна адзначаюць, што ён пачаў літаратурны шлях апавяданнем "Апельсины" (1908). Хоць, як устанавіў літаратурны даследчык Яўген Пятраеў, А. Грын пачынаў з апавядання "В Италии" (1907), калі сам жыў у Пецярбургу пад імем вяцкага мешчаніна А. А. Мальгінава.

Імя пісьменніка акружана легендамі. І сёння па яго творах ставяцца балетныя спектаклі, кінафільмы, выходзяць зборнікі ўспамінаў, наладжваюцца чытанні, адчыняюцца музеі, помнікі і мемарыяльныя дошкі. Валодаў ён рэдкім дарам рамантычнай фантазіі. Матывы экзотыкі прысутнічаюць у яго творах. У фантастычным горадзе Зурбаган, напрыклад, збіраюцца матросы з усіх канцоў свету. Шмат пісалася ад уласна ім перажытага. Аб прыгодах залаташукальнікаў гаворыцца ў аўтабіяграфічнай аповесці "Золотая цепь", якая выйшла ў Маскве з прадмовай Канстанціна Паўстоўскага "Скиталец". У героях Аляксандра Грына пульсуюць моцныя валявыя якасці, і яны гуманізуюць сабой усё лепшае на зямлі ("Алые паруса", "Сердце пустыни", "Бегущая по волнам", "Дорога никуда" і іншыя).

У 1930 годзе пісьменнік перасяліўся ў горад Стары Крым, што каля Феадосіі. Змайстраваў уласны глінабітны домік і дажываў век ужо цяжка хворым чалавекам. Памёр летам 1932 года.

У сваёй аўтабіяграфіі Аляксандр Грынеўскі не хаваў свайго беларускага паходжання, але ці быў хоць калі на Беларусі, пра гэта звестак мы не маем. А магло ж быць і такое, улічваючы яго пастаянныя памкненні да вандраванняў.

### ПАСЛЯСЛОЎЕ

Чэлябінск адкрыўся перада мною самымі рознымі фарбамі: пакутнымі і светлымі. Вуліцы горада гудзяць жыццём, моладзь усміхаецца, спяшыць. Я ж яшчэ раз парываюся ў архіў, каб паўглядацца ў пісьмовыя сведчанні далёкіх часоў, знайсці яшчэ хоць адзін след беларуса. Напрыклад, чым цікавы матэрыял пра будаўніцтва тут транссібірскай магістралі. Успомнілася някрасаўскае пра будаўніка-беларуса. Так, яны будавалі. Толькі тады ўжо падраслі і новыя беларусы, якія фінансавалі, якія закладвалі тут сваё "дело", якія разам з іншымі змаглі прыкладна за дзевяць гадоў перакінуць дарогу жыцця ад Урала на Далёкі Усход. Быў тут і прадпрымальнік-беларус Букар. Але ж усяго не ахопіш. І яшчэ раз пераконваешся, як важна сустракацца з людзьмі, як важна адкрываць дзверы новых архіваў.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**
*Чэлябінск — Маладзечна.*
*Красавік-ліпень*
*1990 года*

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 27-30.**

# БЕЛАРУСКІЯ АЛЬПІНІСТЫ
## ШУКАЮЦЬ АДНАДУМЦАЎ ЗА РУБЯЖОМ

Беларускі Нацыянальны Алімпійскі камітэт і Федэрацыя альпінізму Беларусі запрашаюць да супрацоўніцтва суайчыннікаў, якія жывуць у зарубежных краінах, для сумесных альпінісцкіх узыходжанняў на найвышэйшыя вяршыні Савецкага Саюза і Гімалайскіх гор. Мы марым пры сумесных узыходжаннях узняць у паднябессе нашу нацыянальную і алімпійскую сімволіку і адчуць радаснае біццё сэрцаў аднадумцаў і землякоў.

Беларускія альпіністы маюць вопыт высотных узыходжанняў і гатовы прыняць на сябе клопаты аб падрыхтоўцы жадаючых удзельнічаць у альпінісцкіх узыходжаннях, калі яны маюць патрэбу ў такой падрыхтоўцы.

Магчымыя ўклады спонсараў плануецца таксама выкарыстаць пры правядзенні ўзыходжанняў для таго, каб звярнуць увагу грамадскасці на экалагічныя вынікі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС для нашай роднай Беларусі.

Мы таксама гатовы прыняць прапановы аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў па продажу беларускіх сувеніраў з мэтай выкарыстання грашовых даходаў для фінансавання альпінісцкіх экспедыцый у Гімалайскіх гарах.

Старшыня Беларускага Нацыянальнага Алімпійскага камітэта
В. РЫЖАНКОЎ.

Прапановы просім высылаць на адрас:
БССР, 220600, г. Мінск, вул. Кірава, дом 8, корп. 2, Беларускі Нацыянальны Алімпійскі камітэт, Федэрацыя альпінізму Беларусі,
Факс /0172/ 276184.





Разам з татамі і мамамі нярэдка накіроўваюцца ў Палац фізкультуры вытворчага аб'яднання "Гарызонт" і дзеці. Тут створаны групы сямейнага плавання. Такая форма адпачынку знайшла шырокае прызнанне і на многіх прадпрыемствах Мінска.

А калі здараецца гарачы дзянёк, мінчане накіроўваюцца на пляжы, якія размяшчаюцца ў самім горадзе — на Камсамольскім возеры ці на Цнянскім вадасховішчы і на аднайменнай воднай сістэме.

НА ЗДЫМКАХ: інжынер-тэхнолаг ВА "Гарызонт" Уладзімір МАКСІМАЎ з жонкай Святланай і дзецьмі Кацяй і Паўлікам; на адным з гарадскіх пляжаў.

Фота А. ВАЛЯНЦІНАВА.

# РУКАМ РАБОТА, ДУШЫ РАСКОША

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

было патрэбна. Так і мы, дзеці, з маленства ўсяму вучыліся. Нам нават настаўнік у школе паказваў, як з саломы плесці. Хіба мог я думаць тады, што некалі давядзецца ўспомніць даўнейшае?

Усё ніяк рукі не даходзілі... На пенсію выйшаў — і то не адразу ўзяўся, хоць рабіць нічога другога ўжо не мог, ногі падвялі. У галаву не прыходзіла за салому ўзяцца: каму сёння той гарнец ці кубел патрэбныя? А тут неяк пляменніцы прыехалі, дык не, каб птушак паслухаць ці ў лес збегаць — у тэлевізар адразу ўваткнуліся. А там якраз паказваюць, як майстры плятуць з саломы. Глядзяць пляменніцы, дзівяцца... Я вазьмі ды і скажы жартам: хочаце, і я такое спляту. Пасмяяліся ды і забыліся. Але ж дзіва было, і перш мне самому, што помню, аказваецца, чаму навучыўся ў маленстве. Праўда, кубел ці сявеньку плесці не стаў (нашто яны сёння?), а вось куфэрак ці рамачку — справа іншая. Вунь якая цікавасць сёння да іх... Па ўсім свеце мае работы разляцеліся, у многіх музеях ёсць. Вось і наш, Вілейскі, часта заказвае то тое, то гэтае...

— А як жа з вашымі нагамі салому нарыхтоўваць?

— Жонка памагае. Яна, бывае, і сварыцца, калі ў хаце насмечу, але куды дзенешся? А салому ж абы-якую не возьмеш. Каб яна свяцілася, ззяла, трэба ў жніво нарыхтоўваць, спелую. У сухім месцы хаваць, каб не заплеснела. Тады добры матэрыял будзе, як золата. Хоць якое яно сёння, тое "золата"? Нібыта і добрая салома — доўгая, тоўстая, жоўценькая, а размочыш для работы, дык яна плямамі пойдзе. Хімія... А дзе ж узяць салому з чыстай зямлі? Хоць на сваіх сотках сей...

У сваёй творчасці Пётр Аляксандравіч абапіраецца не толькі на ўспамін дзяцінства. Ён і на выстаўку не палянуецца з'ездзіць, і кніжкамі, якія можна дастаць, карыстаецца. Але цікава, што нікога ён не паўтарае, не пераймае нічыіх знаходак, з самага пачатку сваёй творчасці выпрацаваўшы ўласны арыгінальны почырк. Праўда, не адмаўляецца майстар і ад прыёмаў пляцення, якія здаўна скарыстоўваліся і ўжо сталі універсальнымі, як тая ж вінтападобная пляцёнка. Але найбольш улюбёны яго "паўфабрыкат" — вузенькая плоская пляцёначка ("плётка", як называе яе сам майстар). З яе ён і капелюшы сшывае, і складаныя кампазіцыі выплятае.

Вось, скажам, тая ж птушка, што ўжо стала найбольш пашыраным саламяным сувенірам, і, бадай, кожны аматар пачынае з яе авалодваць саломапляценнем. Фігуркі жаўранкаў здаўна выраблялiся ў народным побыце славян — і як дзіцячая цацка, і як атрыбут аграрнай абраднасці. Народны вопыт выпрацаваў гранічна дасканалую і рацыянальную форму: пучок саломінак, перавязаны ў пэўных месцах, утварае тулава з пышным хвастом, другі пучок, устаўлены ўпоперак, — крыльцы. Проста, але вобразна.

Пётр Аляксандравіч разважыў іначай. Паколькі саламяная птушка сёння — не цацка, не атрыбут аграрнай абраднасці, а мастацкі твор, то і выглядаць яна павінна куды больш дэкаратыўна. І вось ужо яго птушка — не проста сціплы жаўранак, а вялікі залаціста-казачны птах. Тулава добра мадэляванае, суцэльна абкручанае пляцёначкай, з яе ж набраныя і крылы, і хвост.

Уласная інтэрпрэтацыя адчуваецца і ў куфэрках, якія на любой выстаўцы не зблытаеш з работамі іншых майстроў. Формы нібыта традыцыйныя, простыя, але сценкі і века аздоблены рознымі дэкаратыўнымі дэталямі, многія з якіх прыдумаў Пётр Аляксандравіч. Найбольш характэрная яго знаходка — саламяная кветачка накшталт гарлачыка, якая арганічна спалучаецца з традыцыйнымі элементамі — пляцёнкай, рамбічнымі накладкамі і інш.

Арыгінальная выдумка майстра — насценныя карцінкі-пано, таксама выплеценыя з саломы. Сюжэты іх яўна навеяны тыповымі для тутэйшых мясцін маляванымі дыванамі, але ў саломе атрымліваецца зусім новае, нечаканае вырашэнне. Аснова, фон выплятаецца простым перапляценнем разгладжаных саломінак. Як ніткі ў тканіне, толькі фактура больш выразная і графічная. Пляцёначкай выкладваюцца дрэвы, кусты, трава, фігуркі аленяў, птушак, людзей. Пры бакавым асвятленні саламяны ўзор не толькі зіхаціць і пераліваецца, але і стварае выразны рэльефны малюнак.

Любіць Пётр Аляксандравіч і складаныя кампазіцыі сюжэтна-тэматычнага характару. Звычайна гэта розныя бытавыя сцэнкі, у якія майстар укладвае свае ўспаміны аб мінулым. Вось "Хутар": хата, хлеў, гумно, азярод, каля калодзежа — гаспадыня з вёдрамі, непадалёку гаспадар арэ на валах... "Сялянская хата": печ з віламі і качаргой, калыска, калаўрот, гаспадыня за кроснамі, свіння ў запечку сёрбае з карыта...

Сваімі творчымі набыткамі Пётр Аляксандравіч шчодра дзеліцца з усімі, хто пажадае, падтрымліваючы гэтым агеньчык традыцыйнага рамяства ў наваколлі. І ў мясцовай школе ён часты госць, і культработнікі зазіраюць, цікавяцца. Крынічка народнай творчасці ад атуленага кветкамі дамка ва Урэччы расцякаецца па ўсёй Вілейшчыне.

Яўген САХУТА.
Фота аўтара.





Майстар-саломапляцельшчык з Урэчча Пётр ГАТОЎКА і яго вырабы.



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК,
ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97,
33-02-80, 33-03-15, 33-16-56,
33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 1183.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12